# Другі Зьезд Кампазытараў Савецкай Беларусі

У Менску ад 9-га до 14-га сакавіка адбыўся Другі зьезд кампазытараў БССР, які, разам ізь зьездамі ў іншых рэспубліках, папераджае падзею ўсесаюзнага маштабу — Другі ўсесаюзны зьезд кампазытараў. На зьезьдзе, апрача арганізацыйных пытаньняў (выбару новага складу ўправы й дэлегатаў на ўсесаюзны зьезд), былі заслуханыя рэфэраты аб творстве кампазытараў БССР за апошнія гады ды аб стане музычнае крытыкі й музыказнаўства ў рэспубліцы. Ня гледзячы на вялікую падрыхтоўчую працу ў форме шматлікіх прэсавых артыкулаў і радыёаўдыцыяў, а таксама «творчых сустрэчаў кампазытараў із слухачамі, зьезд ня стаўся падзеяй таго значэньня, на якое разьлічвалі арганізатары. «Хоць дэлегатам і гасьцём было паказана шмат новых твораў, аднак глыбокага іх аналізу ў дакладах Я. Цікоцкага й Л. Мухарынскай ня было. Шмат якія кампазытары наагул ня ўдзельнічалі ў дыскусіі» — піша газэта «Літаратура і Мастацтва» з 17. III. 56.

Бяручы наўвагу добрую прафэсыйную падрыхтоўку двух асноўных рэфэратаў кампазытара Я. Цікоцкага й музыказнаўцы Л. Мухарынскай, можна ня сумлявацца ў іхнай музычнай эрудыцыі, і калі ў іншых дакладах ня было «глыбокага аналізу» новых твораў, дык відавочна не таму, што яны ня здолелі гэтага зрабіць, але таму, што ня было адпаведных аб'ектаў для падобнага аналізу. Недарма й бальшыня кампазытараў сьціпла адмовілася ад удзелу ў вабмеркаваньні іх твораў. Выступалі, галоўным чынам, госьці-дэлегаты, кампазытары й музыкаведы Масквы, Ленінграду й Рыгі, а таксама намесьнік міністра культуры БССР Лютаровіч. У выступленьні апошняга, упяршыню за пасьляваенныя гады, прагучэла імя выдатнага беларускага кампазытара А. Туранкова, які «супрацоўнічаў» зь Немцамі ў часе акупацыі Беларусі, і цяпер, відаць, у сувязі з шырока разрэклямаванай амнэстыяй вярнуўся з высылкі. Лютаровіч паведаміў, што ў опэрным тэатры ў бліжэйшыя часы будзе адноўлена опэра Туранкова «Кветка шчасьця».

У выступленьнях крытыкаў адзначаліся «некаторыя посьпехі ў творчасьці беларускіх кампазытараў» («Зьвязда» з 16.3.56). Як пазытыўная якасьць, у іх быў сьцьверджаны колькасны рост твораў на савецкую тэматыку ў опэрным, сымфанічным і камэрным жанрах. Апрача ўжо паказанай гледачу опэры Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесься», над опэрамі ды над творамі на савецкую тэматыку працуюць кампазытары А. Багатыроў («Надзея Дурава») і Пукст («Марынка»). Праграмныя сымфанічныя, харавыя й народна-аркестравыя творы напісалі кампазытары Аладаў (сымфанічная паэма «Зь дзёньніка партызана» і увэртура для народнай аркестры «Зара ўзыйшла»), Алоўнікаў (сымф. паэма «Партызанцкая быль» і сюіта для народнае аркестры «Сучаснае Палесьсе»), Багатыроў (кантата «Беларусь»), Падкавыраў (калгасная сюіта й кантата «Партызаны»), а таксама некаторыя маладыя й самадзейныя кампазытары.

Тэндэнцыйная «праграмнасьць» уласьціва навет і чыста музычным па форме творам, прыкладам — першай сымфоніі Багатырова, натхнёнай падзеямі Другой сусьветнай вайны; чацьвертай сымфоніі Цікоцкага, асноўная тэма якой — гэта «змаганьне за мір»; трэйцяй сымфоніі Аладава, якая адлюстроўвае «сяньняшні дзень савецкіх людзей» і некаторым іншым. Значнае месца займае савецкая тэматыка і ў песьнях беларускіх кампазытараў, у якіх апяваюцца героі вайны, шчасьлівае калгаснае жыцьцё, мірная палітыка Савецкага Саюзу й г. д.. Постаць «вялікага й мудрага правадыра», у сувязі з зыгзагамі партыйнай лініі, зусім зьнікла з поля творчага зроку кампазытараў. Гэткім чынам, з фармальнага боку, кампазытары БССР бадзёра йдуць па шляху, вызначаным партыйным кіраўніцтвам, і натхнёна, у пляне артадаксальнага «сацыялістычнага рэалізму». распрацоўваюць музычна сучасныя актуальныя тэмы.

Аднак, калі зыйсьці з гэтага фармальна-статыстычнага гледзішча ды ўглядзецца ў глыбіню створаных опэраў. сымфоніяў кантатаў, песьняў і іншага, дык зору прадставіцца становішча далёка не пацяшальнае. Калі адкінуць агульныя фразы, якімі апэравалі крытыкі на зьезьдзе, як, прыкладам, «адставаньне ад жыцьця», «адсутнасьць даходлівасьці», «неабходнасьць рэалістычнага наватарства» й г. д., дык усё-ж у шмат якіх выказваньнях можна знайсьці канкрэтныя, хоць і асьцярожныя, заўвагі аб нэгатыўных баках твораў «натхнёных» савецкай тэматыкай. У опэрах — гэта слабыя, мала цікавыя, статычныя лібрэта, нястача яркай абрысоўкі герояў у музыцы, хадульнасьць, дэклярацыйнасьць пазытыўных вобразаў, нястача цяплыні, непасрэднасьці, шчырасьці ў музычнай мове. Таму асобныя арыі, дуэты ці іншыя нумары з опэраў не знаходзяць дарогі ў народ, іх навет рэдка можна пачуць у канцэртах або праз радыё.

У сымфанічных творах сьцьвердзілася нястача сьвежасьці ў музычнай мове, цьмянасьць тэматычнага матарыялу, фрагмэнтарнасьць формы, статыка замест запраўднага сымфанічнага разьвіцьця, прымітыўная праграмнасьць што пераходзіць часам у ілюстрацыйнасьць, манатоннасьць, нястача кульмінацыйных пунктаў у разьвіцьці.

Зусім дрэнна стаіць справа з вакальнай мініятурай-рамансам. Цяжка знайсьці твор гэтага жанру, які знайшоў-бы хоць-бы адносную папулярнасьць. Тут яшчэ не асягнулі непарыўнай сувязі слова й музыкі, якая зьяўляецца асновай гэтага жанру.

Крыху лепш зь песьнямі — але й тут ёсьць шмат шэрых, манатонных мэлёдыяй песьняў, якія ня прыймаюцца й не запамінаюцца народам.

Гэткім чынам, калі зьезд паказаў пэўны колькасны рост творчасьці «натхнёнай» савецкай тэматыкай і тым самым выставіў кампазытараў БССР «вернымі носьбітамі» ленінскай тэорыі партыйнасьці мастацтва, дык рост гэты — толькі казённы пакажчык вынікаў партыйнай палітыкі, а творчы «запал» кампазытараў — гэта толькі страхоўка свайго месца ў савецкай грамадзкасьці, своеасаблівае «падкормліваньне» партыйнага дракона, каб самому ня быць праглынутым.

З гэтага гледзішча, за «зялезнай заслонай» мала што зьмянілася, хоць апошнім часам можна было знайсьці ў савецкай прэсе нацёкі на тое, што навет і партыйныя кіраўнікі пачынаюць адчуваць хвальш і шкоднасьць для мастацтва сваіх «тэорыяў». Прыкладам, партыйны часапіс «Камуніст» у нумары за студзень гэтага году адцемлівае, што «ў пасьляваенны пэрыяд савецкае мастацтва не стварыла нічога выдатнага ці арыгінальнага. У мастацтве пануе шэрасьць, яно ўсё яшчэ ня вызвалілася ад дагматызму, ад сюжэтнай манатоннасьці». І далей часапіс раіць савецкім мастаком адыйсьці ад прапагандовых мэтаў ды паказаць запраўднае жыцьцё, як гэта робяць буржуазныя мастакі, якія навет не падзяляюць камуністычнае ідэялёгіі. Вывучаць сучасную заходня-эўрапэйскую музыку заклікае савецкіх музыкаў і часапіс «Савецкая музыка» (№ 7, 1955). Але гэты «паварот на Захад» пад сьцягам «мірнага суіснаваньня» пакуль што ніякіх канкрэтных плённых вынікаў ня даў, ды на асаблівыя вынікі разьлічваць і ня прыходзіцца, бо «суіснаваць» з савецкімі кампазытарамі, бязумоўна, змогуць толькі заходня-эўрапэйскія музыканты, ідэйна блізкія камунізму, якія мала чым узбагацяць арсэнал творчых сяродкаў сваіх савецкіх калегаў, ці пашырацць іх ідэйна-сюжэтны дыяпазон. Надта вузкі выбар тэмаў для творчасьці падразае крыльле запраўднаму натхненьню і ня дзіва, што пераважная бальшыня твораў на актуальную «сацыяльна-рэалістычную» тэматыку, паказаных на зьезьдзе, зусім слабая з мастацкага боку. Страх перад пошукамі новых сяродкаў музычнае мовы ды імкненьне да «даступнасьці» й «народнасьці» творства прыводзяць кампазытараў вельмі часта да прымітывізму й банальнасьці. Вельмі цікавым зьяўляецца выказваньне выдатнага пісьменьніка й «арбітра» ў мастацкіх пытаньнях І. Эрэнбурга, які лічыць Пікасо за найбуйнейшага мастака нашага часу, і разам з тым вызнае, што шмат зь ягоных працаў даступны толькі вельмі абмежаванаму колу людзей, г. зн., што магчымыя буйныя мастацкія дасягненьні і ў рамках мастацтва, незразумелага народу («Літаратурная газэта» № 119). Праўда, за падобнага роду заяву на Эрэнбурга абрушылася суровая крытыка, і зрабіць падобную заяву мог адважыцца толькі Эрэнбург, але бясспрэчна, што выражае яна настроі шмат якіх мастакоў. Пакуль-жа для кампазытараў БССР, як і раней, марксызм-ленінізм зьяўляецца «праводнай зоркай», і, як раней, яны мусяць прыслухоўвацца да партыйных настаўленьняў. Прыкладам: «стварэньне высокаякасных мастацкіх твораў немагчымае бяз глыбокага вывучэньня марксысцка-ленінскай навукі» («Савецкая культура» з 5.4.56), або: «дакуманты XX зьезду КПСС — гэта крыніца натхненьня для кажнага савецкага чалавека, дзе-б ён ні працаваў» («Савецкая культура» з 1.3.56).

На тэму надзвычайна важнага пытаньня — аб нацыянальным стылі ў музыцы — адбылося нямала спрэчак і на папярэдніх, перадзьездаўскіх, творчых вечарох і на самым зьезьдзе. Аднак, як і трэба было чакаць, да колькі-небудзь задавальняючых вынікаў справа не дайшла. Абрыдлая догма мастацтва «сацыялістычнага зьместам і нацыянальнага формай» спрычыняе, як і раней, шмат клопату беларускім кампазытарам. Запраўды, цяжка дадумацца, што дазволена, а на што накладзена «табу» ў галіне стварэньня «нацыянальнай формаю» музычнае культуры? Тут пануе блытаніна паняцьцяў. «Дарма шукаць нацыянальнае характэрнасьці музычнае мовы ў бытуючых яшчэ дзе-нідзе архаічных інтанацыях» — павучае газэта «Літаратура і Мастацтва» ў перадавым артыкуле з 10.3.56. І там-жа, праз пару радкоў: «Для нікога не сакрэт, што шырокае й разнастайнае выкарыстаньне своеасаблівай у ладавым строі народнай мэлёдыі ўзбагачвае нацыянальныя рысы твору». Міжвольна напрошваецца пытаньне — ці-ж ня зь сівой старажытнасьці, да якой «дарма зьвяртацца» (бо гэта-ж «ідэялізацыя фэўдальнай мінуласьці»!) данясла народая мэлёдыя сваю ладавую своеасаблівасьць,

Страхуючы сябе ад небясьпекі шмат разоў асуджанага нацыяналізму, некаторыя музыкаведы дагаворваюцца да фармулёўкі, што «зварот да народнага песеннатанцавальнага матарыялу спрычыніўся да затармажэньня разьвіцьця творчасьці» (Савецкая культура» з 3.3.56, артыкул «Аб нацыянальнай форме ў музыцы»). Таму значна больш бясьпечнай і плённай зрабілася стаўка на «жыватворчы ўплыў» на разьвіцьцё беларускага мастацтва культуры расейскага народу. Псэўда-навуковая прапаганда аб трыадзіным расейскім народзе дае свае вынікі й руйнуючы адбіваецца як у творчасьці беларускіх кампазытараў, так і ў выказваньнях беларускіх музыкаведаў. Характэрна, што адзін з крытыкаў, які выступіў на зьезьдзе, навет не-Беларус (камп. І. Дзержынскі зь Ленінграду), зацеміў, што назоў кантаты Багатырова «Беларусь» ня зусім адпавядае музычнаму зьместу твору» («Літ. і Маст» з 17.3.56) Відаць, мала запраўды беларускага было ў гэтым творы. Музыкавед-жа Б. Смольскі, ужо як аб пазытыўнай якасьці, гаворыць аб традыцыях расейскай клясыкі ў творчасьці Багатырова і шкадуе, што традыцыяў гэтых кампазытар далей не разьвівае (там-жа). Партыйны прынцып у падыходзе да выкарыстоўваньня народнага мастацтва ў прафэсыйнай музычнай творчасьці, як і раней, застаецца галоўным тормазам на шляху разьвіцьця нацыянальнай музычнай беларускай культуры. Мяркуючы па справаздачах аб працы зьезду, гэтаму пытаньню на паседжаньнях зьезду ня было прысьвечана асобнага дакладу, але навет калі-б ён і быў, дык пры сучасным стане рэчаў, вельмі сумлеўна, ці ён дапамог-бы ў пазытыўным разьвязаньні праблемы.

У выступах выказваньнях кампазытараў і музыкаведаў на зьезьдзе зьдзіўляе вялікая колькасьць агульных месцаў, нястача сьвежай арыгінальнай думкі, вузкая казённая трафарэтная крытыка. Нізкі прынцыповы ўзровень і шэрасьць у выказваньнях прызнае й савецкая грамадзкасьць. «Можна было чакаць, што Другі зьезд кампазытараў БССР станецца трыбунай шырокага абмеркаваньня надзённых праблемаў беларускае музыкі. Нажаль, гэтая надзея не апраўдалася» — канстатуе газэта «Літаратура і Мастацтва» з 17..3.56. Яна не апраўдаецца да таго часу, пакуль кампазытары й музыкаведы БССР ня выйдуць із сфэры ўплыву «пуцяводнай зоркі» марксызму-ленінізму ды ня змогуць тварыць і крытыкаваць, так як дыктуе ім вольнае натхненьне й розум, а не навязаныя зьверху нормы й догмы.

**Алесь Карповіч**

## Лёнданская візыта і ея вынікі

(Заканчэньня зь 1-ай бачыны)

Як і трэба было спадзявацца, Саветы адразу-ж прынялі запросіны Ідэна, а, разумеючы матывы паступаньня апошняга, абнадзейвалі сябе думкай, што ў Лёндане ўдасца ўбіць клін паміж Вялікабрытаніяй і Амэрыкай і гэтым аслабіць блёк дзяржаваў Атлянтычнага пакту. Як бачым, гэты сьмелы савецкі намер, на шчасьце, праваліўся.

З другога боку, паездка Булганіна й Хрушчова была задуманая, як вялікае прапагандовае турнэ па Ангельшчыне, падобна да такога-ж рэйду па Індыі й Бірме. Але й тут савецкія кіраўнікі моцна аблічыліся. Тое прыняцьце, якое іх спаткала ў Лёндане, Бірмінгаме, Оксфордзе й іншых гарадох, мела, праўда, прапагандовы характар, толькі што гэтая прапаганда была ськіваваная вылучна супраць Булганіна і Хрушчова, а тым самым і супраць Савецкага Саюзу.

Ангельскае грамадзянства праявіла сваю палітычную дасьпеласьць і пачуцьцё сваей нацыянальнай годнасьці, чаго, нажаль, нельга сказаць аб брытанскім урадзе і ягоным прэм'еры Ідэне. Справа ў тым, што хутка пасьля запросінаў Булганіна й Хрушчова ў Лёндан, атмасфэра жэнэўскага адпружаньня разьвеілася, што найбольш балюча адчула на сабе якраз Ангельшчына, бо адразу пасьля Жэнэвы Саветы праніклі ў краіны Сярэдняга Ўсходу й падмінавалі там найбольш жыцьцёвыя брытанскія пазыцыі. Мала гэтага. Падчас сваей паездкі па Індыі й Бірме той-жа Хуршчоў і Булганін не прамінулі ніводнай нагоды, каб не ачарніць перад паўдзённа-азіяцкімі масамі Вялікабрытаніі і не абвінаваціць яе ў зусім няіснуючых рэчах. Ангельская публічная апінія была тады глыбака абражаная і дамагалася, каб Ідэн адклікаў свае запросіны. Аднак, гэтага ня сталася. Таму як у самой Ангельшчыне, гэтак і наагул на Захадзе прэстыж Ідэна сяньня значна падупаў.

Для заходняга сьвету візыта Булганіна й Хрушчова ў Лёндане мае аднак той добры бок, што яна яшчэ раз паказала немагчымасьць дагаварыцца ў чым-небудзь з Саветамі, не скапітуляваўшы перад імі. Расейска-камуністычная Масква ніколі дабравольна не адступае, яна можа быць адапхнутая толькі сілаю. Ад таго, ці заходні сьвет захоча гэта напасьледак зразумець, будзе залежыць ягоная собская будучыня.

**Л. К.**

### НОВЫ ДЫРЭКТАР БЕЛАРУСКАЙ СЭКЦЫІ РАДЫЯ «ВЫЗВАЛЕНЬНЕ»

**За пару тыдняў пасьля ад'езду ў Канаду ранейшага дырэктара Беларускай Сэкцыі радыя «Вызваленьне» ў Мюнхэне, 22 красавіка сёлета прыехаў з Вэнэцуэлы новы ейны дырэктар. Ёсьць ім ведамы беларускі паэта Ўладзімер Дудзіцкі, творы якога друкаваліся ўжо ня раз на бачынах нашае газэты. Сп. Ўладзімера Дудзіцкага спаткалі на мюнхэнскім аэрадроме прадстаўнік Рэдакцыі «Бацькаўшчыны» й прадстаўнікі Беларускай Сэкцыі радыя «Вызваленьне».**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» радасна вітае сп. Уладзімера Дудзіцкага ў Мюнхэне і шчыра жадае яму плённае працы на гэтак важным і адказным становішчы.**

**ЯКУБ КОЛАС** 21)

# У палескай глушы

### XXXV

— Гэта мой апошні тут вечар, — казала сама сабе Ядвіся: — І я ня ўбачу яго!

Яна задумалася, прыслухоўваючыся да голасу свае думкі. Няўжо-ж і ня ўбачыць яго? Ніколі ня ўбачыць? І нашто яна зманула яго? Яна-ж і тады ўжо ведала аб тым, што заўта, у панядзелак, паедзе, а яму сказала, што ня ведае, калі будзе выязджаць. Ядвіся зірнула на вокны кватэры настаўніка. Там цёмна і страшна, бо пуста. Дом толькі тады жывы, калі ў ім жыве гаспадар, бо гаспадар — душа свайго дому. Як смутна і тужліва пазіраюць гэтыя шкляныя вочы пустой і мёртвай кватэры! І дарэмна гэты малады бліскучы месячык стараецца ажывіць пагаслыя вочы: яны сьвецяцца, а жыцьця няма.

Ёй навет страшна. Яна нізавошта цяпер не падыдзе да іх, як падыходзіла калісь, калі гэтыя вокны жылі і так прывегна пазіралі на іх двор сьветлазялёным сьвятлом. О, тады ёй было весела, і яна так ціхенька падыходзіла, як начны матылёк, да гэтых вокан, яшчэ цішэй падымалася на плот перад вокнамі і доўга пазірала туды. Шчасьлівая ўсьмешка прабягала па яе губках, бо ён нічога ня ведае, сядзіць якраз насупраць, сьхіліўшы галаву над кнігай, і толькі зрэдка правядзе рукою па сваіх цёмных, зусім яшчэ маладых вусіках. Сьмешны ён, калі падымае свае вочы, такія добрыя і ўдумныя, і пазірае ў вакно. І гэтыя вочы напэўна шукаюць яе. Яна-ж тут, але яго вочы ня бачаць яе. І сьмешна ёй і радасна. Але ён гэтага ня ведае...

— Не! Ён многа ня ведае чаго — і ніколі ведаць ня будзе!

І чаму салгала яму? Ну, чаму? А можа, заўтра ня ехаць? Ад яе залежыць. Татка-ж ня гоніць яе. Ён цяпер такі добры зь ёю! «Пагуляй ты, кажа, Ядвіська: не гарыць-жа там у цябе!» Яе татка добры, але чагось яна баіцца яго. Ёй страшна, калі ён прыдзе дадому, а вочы яго пазіраюць кудысь далёка-далёка, як-бы яны сышлі зь яго твару, а гэтыя грозныя, жорсткія вусы, як хмара ў навальніцу, апусьцяцца ўніз.

Нашто яна салгала яму? Ёй хочацца пабачыць яго. Эх, каб ёй крыльле! От-бы ўзьнялася цяпер і паляцела да яго, проста, каб пабачыць яшчэ раз, вось так, як пазірала на яго тут, калі ён ня ведаў аб тым...

Не, гэта апошні яе вечар тут!

Тонкія, доўгія, цёмныя рыскі-бровы Ядвісі крыху насуваюцца і хмурацца, і твар яе робіцца срогім. Так, гэта апошні тут вечар!

Яна зноў пазірае на вокны. А каб пайсьці туды? Сесьці за сталом, як сядзеў калісь ён і праводзіў рукою па маладых сваіх цёмных вусіках? Там страшна, бо там пуста. Там цяпер прытаіўся нехта другі, неласкавы і варожы. І, напэўна, яна спаткала-б нешта там, каб пайшла цяпер туды. Ну, напэўна, пачула-б голас, а можа, сьмех, пусты і жудасны сьмех. Яна ўпэўнена ў тым, што пачула-б той страшны і таемны сьмех, і гэта забіла-б на сьмерць радасьць і шчасьце, што знайшлі месца ў яе сэрцы. Яна зноў пазірае туды.

Як жудасна заліваюцца сьмехам совы каля каплічкі! Чаго сьмяюцца яны пустым сваім сьмехам? Чаго? Ці не зь яе? А гэтыя цёмныя вокны! Што ў іх? Чаму яны ўбіліся ёй у вочы? Ёй навет робіцца нейк няпрыемна ад гэтага. «А я пайду туды! Вазьму ды пайду!.. Няўжо я пайду?».

Яна ціха падымаецца, азіраецца, ідзе. Кухня не замкнёна. Адчыняе дзьверы. Яна ў кухні.

— Ты, бабка, тут? — пытае ціха Ядвіся.

Бабка варочаецца на печы.

— Тут, паненачка!

— А чаму ты, бабка, дзьвярэй не замкнула?

— От, паненачка, прылегла дый так ня прычыніла. Я-ж ня сплю.

— Заўтра, бабка, паеду.

— Паедзеце, паненачка? — пытае бабка, устае і садзіцца на печы. — І не пачакаеце, калі паніч вернецца? — пытае яна.

— А хіба-ж твой паніч зы мной паедзе?

— Ну, як-жа, паненачка: ён смуціцца будзе, што вы паехалі і не разьвіталіся зь ім.

— А чаго ён будзе смуціцца? — пытае Ядвіся.

Ёй прыемна чуць ад бабкі, што ён будзе смуціцца.

— Чаму-ж ня будзе, паненачка? Я-ж бачыла, якімі вочкамі пазірае ён на вас.

— Ну, якімі-ж? Скажы, бабка!

— Добрымі вочкамі, успагаднымі вочкамі, паненачка, такім позіркам, што зд сэрца ідзе, каб другому сэрцу штось сказаць.

— А што сказаць другому сэрцу?

— Я ўжо забылася, паненачка. Куды-ж я? — старая. Забылася, —хітра адказвае бабка.

А каго ты, бабка, больш любіш: мяне ці паніча?

— Я і вас люблю і паніча люблю... От, паненачка, пабраліся-б вы з панічом, далі-Бог! — з жарам і зусім іншым тонам прамовіла бабка, і ў ёй адразу абудзілася жанчына-свацьця.

— Мне-ж, бабка, толькі шаснаццаты год, мне і замуж няможна яшчэ.

— О, паненачка, шаснаццаты год! Дык ня сяньня-ж і замуж ісьці.

— А твой паніч ня хоча мяне.

— Ой, паненачка, што вы кажаце! Чаму-ж ён ні на кога іншага ня хоча глядзець? Чаму-ж ён ніколі ня пойдзе да панны каморнічанкі? Усе туды ходзяць, а ён не. Мусі быць, каля вас яму мілей.

— Проста гультай твой паніч і болей нічога.

— Не, ня гультай ён: ён вас, паненачка, пакахаў.

— А хіба ён табе казаў?

— А што ён будзе казаць мне? Ён вам пра гэта казаў.

— Не, бабка, ніколі не казаў ён гэтага мне.

— Казаў, паненачка, казаў! І яшчэ скажа.

— Нічога ты, бабка, ня ведаеш!

— Ведаю, паненачка, ведаю!.. А куды вы, паненачка, ехацімеце?

— Далёка, бабка, у маёнтак, на службу.

— А паніч ведае?

— Нічога ня ведае і ня будзе ведаць.

— Вы напішаце яму, паненачка?

— Нічога я ня буду пісаць яму.

Ядвіся падышла да дзьвярэй пакойчыка Лабановіча, адчыніла і ўвайшла. Ціха. Цёмна і пуста.

Ядвіся прыслухалася.

Між сьцяною і адстаўшымі ад яе абоямі прашуршэў кусочак пабелу. Чаго ён так доўга каціўся? Гэты шолах здаўся ёй ня выпадковым. Але ёй ня страшна. Ёй проста чагось шкада. Яна чуе нейкі смутак. Вочы яе прывыклі да цемры. Із змроку выступаюць няясныя абрысы стала. Вось і крэсла. На тым самым месцы, дзе ён звычайна сядзеў.

*Куток мовы*

# Да правапісу чужых словаў

Другім пытаньнем, каторае закрануў др. Ст. Станкевіч, ёсьцека «беларуская вымова словаў іншамоўнага паходжаньня»; запраўды-ж ідзець мова ня толькі пра вымову словаў чужых, але й пра іх правапіс у мове беларускай. Пад гэтае агульнае пытаньне др. Ст. Станкевіч падвёў тры меншыя пытаньні. Першым із іх ён паставіў аканьне ў беларускай мове ў словах чужога неславянскага паходжаньня. Ён піша:

«Беларуская літаратурная мова вызначаецца поўным аканьнем у дачыненьню да «о» і «е», якія бываюць толькі пад націскам, а не пад націскам пераходзяць у «а», «я», і то навет у словах сьвежа запазычаных з чужых моваў. Беларус, які ня мае папсутага вычуцьця беларускай мовы, будзе аўтаматычна выгаварваць: «канфэрэнцыя», «камунізм»... «тэрміналягічны» і пад., але др. Я. Станкевіч апошнімі гадамі пачаў кансэквэнтна ўжываць (ня думаю, каб вымаўляць) «конфэрэнцыя»... «тэрмінолёгічны». Дык ці-ж ня ёсьць гэта штучным затрымліваньнем натуральнага працэсу асыміляцыі чужых словаў?»

Пра тое, як я ўжываў (ня толькі апошнімі гадамі) і ўжываю, будзе ніжэй. А цяпер зраблю папраўку што да «ё». У паўночна-славянскіх мовах **е** па мягкім сугуку перад цьвярдым сугукам пераходзе ў **о**, у мове беларускай дзеля гэтага пераходу вымагаецца яшчэ, каб **е** апынулася пад націскам. Гэтае **о** з **е** перадаецца на пісьме цераз **о**, калі пішам пабеларуску лацініцаю (zialony), а калі пішам кірыліцаю, перадаецца на пісьме цераз **ё** (зялёны) і толькі па зацьвярдзелых сугуках перадаецца на пісьме цераз **о** (шчодры). Калі-ж менаваных умоваў няма, дык, замест **е** няма й ніякага **ё** або **о**, а ёсьць **е** (аднасель), каторае па зацьвярдзелых сугуках передаем цераз **э** (сярэдні).

Дзеля менаванага, да складоў, у каторых ёсьць **ё** з **е**, тарнуецца той самы правапіс у мове беларускай, што наагул да **е** (дзёгаць, дзягцяр, дзегцяры; дзярно, дзернавы; сяло, сёлы, селавы).

На каля 9/10 прасторы беларускае мовы народнае і ў беларускай мове літаратурнай кажнае ненацісьненае **о** й **э** пераходзе ў **а**, зн. гэтак вымаўляецца (чапаць, чакаць, частаваць, серадня, шарэць і інш) *) Сусім чыста такому-ж аканьню падлягаюць словы, перанятыя з чужых славянскіх і неславянскіх моваў, ды незалежна ад часу іх пераняцьця да беларускае мовы. Адным чынам беларуская вымова не дапушчае ненацісьненых **о, э**, замест іх мусіць быць **а**. Гэткая вымова. А што да правапісу, дык ужо ад граматыкі Тарашкевіча 1918 г. прынята і агульна ўжываецца ў сваіх словах пісаньне **а** замест ненацісьненага **о, э** (зн. замест **е** па сугуках зацьвярдзелых). Зацемлю, што сугукі зацьвярдзелыя адно тым розьняцца ад здаўна цьвярдых сугукаў, што гэныя (першыя) калісь (звычайна ў мове праславянскай) былі мяккія або паўмяккія.

Што да словаў чужых, дык спачатку да ўсіх, а пасьлей толькі да неславянскіх было прынята, што на месцу ненацісьненых **о, э** пісаць **а** адно тады, калі словы зь імі сталіся ў мове беларускай агульна народнымі, зн., прыкл.: шаўковы, карона, патрэт, акуляры, касьцёл, Раман, Хама, Тамаш, тарпатына, гляйцарына, царква, Тахвіля, сакрэт, літара, Тадора, дакляраваць і інш. Пры гэтым трэба зацеміць, што **ё** чужых неславянскіх словаў не паходзе з **е** і дзеля таго да яго тарнуецца тое самае правіла пра аканьне на пісьме, што й да **о (Язэп).** А калі ў народнай мове чужыя неславянскія словы агульна не пашыраныя, дык да іх на пісьме (але толькі на пісьме) аканьня не тарнавалі (соцыялісты, тэолёг, нэолёгізм, біолёгія і інш.). Гэтак і **я** ўжываў і ўжываю. Гэтаксама ўжывалі ў Беларускай ССР у часе т. зв. нацдэмаўшчыны. Прыклады: дэмократычны (400-лецьце беларускага друку, б. 132), экономіка (там-жа), організацыя (Працы першага зьезду беларускіх археолёгаў і археографаў у Менску 1926 г., б. 28), проф. Сьпіцыну (там-жа), позыцыя (Цьвікевіч: Западно-руссизм, б. 292), позыцыі (там-жа, б. 330), політыка (там-жа, б. 275), губарнатара (там-жа, б. 298) і інш.

Ідзець тут, ведама, не пра тое, як пісаць кажнае слова, але пра сам прынцып.

Але, пачынаючы з 1930 г., асабліва-ж із 1931 г., разам із перасьледаваньнем усяго беларускага, у тым ліку і асабліва беларускае мовы, расейскія камуністыя нападаюць на неадрозьніваньне на пісьме (а відавочна і ў вымове) ў чужых неславянскіх словах ненацісьненага **о** ад ненацісьненага **э**, і вымагаюць ненацісьненае **о** перадаваць на пісьме цераз **а**, а ненацісьненае **э** пакідаць на пісьме (а, відавочна, і ў вымове) бязь зьмены. Такія нападкі знаходзім у выданьнях ськіваваных супроці беларускае мовы («Навука на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі. пад рэдакцыяй С. Я. Вольфсона», у Менску 1936 г., інш.) Дзеля таго, разам із цэлай русыфікацыйнай «рэформаю» беларускае літаратурнае мовы, была праведзена Расейцамі і гэтая зьмена. Яна належа да тых чысьленых зьменаў, каторыя не ўвайшлі ў дэкрэт 1933 г. пра зьмену практычнае граматыкі беларускае мовы, але былі ўведзеныя вонках дэкрэту. Такі спосаб увядзеньня гэтай зьмене папрыяў, бо толькі гэтым можна выясьніць ейнае пашырэньне й там, куды расейская камуністычная прынука не даходзе.

Расейцы зрабілі гэтую зьмену дзеля таго, каб і ў даным прыпадку прытарнаваць беларускую мову да расейскай мовы. бо ў расейкай літаратурнай мове і ў маскоўскай гаворцы ненацісьненае **о** і ненацісьненае **э** вымаўляюцца розна: ненацісьненае **о** ў першым складзе перад націскам вымаўляецца як **а** (вада), а ненацісьненае **э** ў тым-жа палажэньню вымаўляеца як **ы** — **цена** вымаўляецца як **цына** (П. Черных: Историческая граматика русского языка, М. 1952, б. 120-121).

Гэтта мо' ня лішнім будзе падаць маленькую ведамку пра ўзьнік аканьня ў расейскай мове. У мове расейскай доўгі час ня было аканьня. Зьявілася яно позна пад уплывам вымовы беларускай інтэлігенцкай эміграцыі ў Маскве ў XVII стг. і вяцїцка-беларускай гаворкі, зьявілася спачатку ў мове места Масквы і ягоных найбліжшых аколіцаў, скуль перайшло да расейскай мовы літаратурнай. Лучыўшы на чужы яму расейскі грунт, беларускае аканьне зьмяніла там свой характар, між іншага, і што да ненацісьненых **о, э**, зн. мае адзначаную гэтта вышэй асаблівасьць. Тая народная расейская мова, каторая не дазнала большага ўплыву мовы Масквы або расейскай мовы літаратурнай, наймя паўночна-расейскае нарэчча, і дагэтуль ня знае ніякага аканьня. Пасьлей Расейцы абрусілі на вялікай прасторы вяцїцка-беларускую гаворку, каторую цяпер завуць паўднёва-вялікарускім нарэччам; у ім, як у спачатна беларускім, аканьне сусім такое, як у мове беларускай.

Дзеля вышменаванага і на пісьме, як у сваіх, так і ў чужых словах ня можна адрозьніваць ненацісьненага **о** ад ненацісьненага **э**. Можна або абодва іх заховаваць на пісьме ў словах незнародненых, або абодва іх перадаваць цераз **а** і ў словах незнародненых, зн. пісаць, прыкладам, сацыялізм, імпарыялізм, налягізм, тарміналягічны і інш. Навет, маючы наўвеце, што нашыя людзі ня хочуць нічога вучыцца свайго, гэты другі спосаб можна было-б уважаць за лепшы, бо гэта змусіла-б усіх правільна вымаўляць пабеларуску.

Гэтта будзе на месцу зацеміць пра **е** (па мяккіх сугуках) ненацісьненае ў мове беларускай. Яно таксама **ніколі** ня вымаўляецца ані ў сваіх, ані ў чужых словах. Замест яго вымаўляецца або **я**, прыкл. **чытае, гукае, поле, няма нашае кнігі** трэба вымавіць: **чытая, гукая, поля, няма нашая кнігі.** Вымова ў такіх хормах літары **е** як **е**, каторую можна пачуць нат у бларускіх артыстых, у беларускіх хораў і радыю, ёсьць вымова чыста штучная і сусім чужая. У граматычных хормах, як **чытаеш, чытаем, чытаеце**, перадапошняя літара **е** вымаўляецца як **і**, а апошняя як **я (чытаіш, чытаім, чытаіця).** У такіх словах, як **верабей, лесавік, земляны,** зн. з **е** ў другім складзе перад націскам, калі ў першым складзе перад націскам ёсьць а(я), **е** вымаўляецца або як **я (вярабей, лясавік, зямляны)** або як **і (вірабей, лісавік, зімляны)**, але ніколі як **е.** Зн., ненацісьненае правапіснае **е** вымаўляецца або як **я** або як **і**, або нявыразьліва, зьбліжана да **а**. Дзеля рознае вымовы **е** націсьненага ад **е** ненацісьненага, у першым выданьню 1918 г. граматыкі Тарашкевіча **е** націсьненае абазначалася цераз **é**, а толькі **е** ненацісьненае абазначалася цераз **е.**

Правапіс ненацісьненага **е** (па мяккіх сугуках) у чужых неславянскіх словах (зн. толькі па **л, г, к,** бо па іншых сугуках ёсьць **э**) мусіць быць прытарнаваны да правапісу ненацісьненага **е** ў сваіх словах, зн., прыкл. **Лявон**, але **Левановіч,** а з другога боку будзе залежыць ад таго, ці дзеля аканьня на пісьме будзе прыняты прынцып агульнай народнасьці перанятага слова ці не; у першым прыпадку пісалі-б **Аляксандра,** але: **легіён, легенда,** а ў другім і **лягіён, лягенда.**

**(Далей будзе)**

**Я. Станкевіч**

*) Я тут абмінаю беларускае нарэчча з распадобнюючым аканьням (вымова: кызаў, ныга, сыха, чыкаць, але: кажу, нагі, саху і пад.), бо ў нашай мове літаратурнай прынята аканьне нераспадобнюючае.

# У паняволенай Беларусі

### «ПАДЗЯКА» ЗА СТАХАНАЎШЧЫНУ

Пляны шостай пяцігодкі прадугледжваюць, між іншага, шматразовае павялічэньне савецкае прамысловае прадукцыі. Павялічэньне гэтае мае адбыцца на базе павышэньня тэхналёгіі й кваліфікацыі работнікаў. Якія цяжкасьці павінны будуць адолець партыйныя цівуны, каб выканаць «велічныя заданьні» пяцігодкі, найлепш відаць зь ніжэй пададзенага прыкладу, узятага з камсамольскай газэты «Чырвоная Зьмена» з 31. 3. 56 (гл. «Бракаробы із стажам»):

«Аб прадукцыі з маркай Менскага заводу ацяпляльнага абсталяваньня вось ужо на працягу трох год ідзе самая дрэнная слава. Радыятарныя печы, якія выпускае гэты завод і пастаўляе заводу санітарна-тэхнічных дэталяў, у пераважнай бальшыні йдуць у брак.

«На заводзе гэтым радыятарныя печы праходзяць паўторнае гідраўлічнае выпрабаваньне. **Як правіла, пасьпяхова** вытрымлівае гэтае выпрабаваньне толькі **10 працэнтаў прадукцыі.** Напрыклад, з атрыманых у пачатку сьнежня 1954 году 900 квадратных мэтраў радыятарных печаў 168 сэкцыяў аказаліся зусім няпрыгоднымі для эксплуатацыі. Наступныя дзьве партыі, у колькасьці 1 200 квадратных мэтраў, таксама пайшлі ў брак. Наагул за мінулы год на тэрыторыі заводу санітарна-тэхнічных дэталяў сабралася 4 тысячы бракаваных сэкцыяў радыятарных печаў. Не зьмянілася становішча й сёлета».

**А. Хацкевіч**

☆

### НА МЕНСКІМ РЫНКУ

(«Зьвязда», 6. 4. 56)

Юбілейны рынак — адзін з буйнейшых у Менску. Аднак тут ня створана належных умоваў для культурнага гандлю.

Рынак адкрываецца ў сем гадзін раніцы, работнікі-ж мясакантрольнай станцыі прыходзяць на работу, калі ім уздумаецца .Да іх прыходу ўтвараецца вялікая чарга. Калгасьнікі вымушаны чакаць некалькі гадзін, пакуль будзе праверана мяса. Ля дзьвярэй мясакантрольнай станцыі заўсёды вялікі натоўп людзей, мітусьня, у памешканьні няма лавак, сталоў, на якія можна было-б пакласьці тушы. Пасьля таго, як мяса праверана ,трэба патраціць нямала часу на тое, каб узважыць яго, заплаціць рыначны збор, потым некалькі гадзін стаяць у чарзе па атрыманьне настольных вагаў, інвэнтару і санітарнай спэцвопраткі. Дарэчы, пра інвэнтар. Нажы вельмі тупыя, і рэзаць мяса імі немагчыма, тазікі брудныя, хвартухі і халаты без завязак.

1-га сакавіка мы прастаялі ў чарзе 6 гадзін. На прадаж прадукцыі засталося мала часу. Каб прадаць усё мяса, мы вымушаны былі застацца яшчэ на дзень. Да гэтага трэба дадаць, што на рынку няма халадзільнай установкі й камэры захоўваньня, а таксама памешканьня, дзе можна было-б пераначаваць.

**К. Янушкевіч, Ф. Карніцкі,**
калгасьнікі.

### НАВІНЫ ЗЬ ВІЛЬНІ

**Некаторыя беларускія ўцекачы паведамляюць, што кс. Адам Станкевіч, які стала жыў у Вільні, два гады ўжо як вывезены бальшавікамі. Станіслаў Станкевіч, што меў кнігарню ў Вільні на рагу вуліц Вострабрамскай і Субач і быў вывезены адразу пасьля вайны, цяпер вярнуўся назад.**

☆

### «ПЕЎНІКІ» НА ПАЛАЧКАХ

(«Зьвязда», 6. 4. 56)

— Пеўнікі! Пеўнікі! Пеўнікі салодкія!..

— Купляйце шары! Купляйце шары!..

— Вось лепшыя цацкі для дзяцей! — выкрыквае мужчына з аброслым тварам, спрытна пакручваючы дзіцячую трахцёлку.

Усіх заглушае малады звонкі голас гандляркі: «Смажаныя семкі! Купляйце смажаныя семкі!»

Такі малюнак можна бачыць штодзённа на рагу вуліцаў Нямігі й Камсамольскай у Менску.

...Уздоўж тратуару расьцягнуўся рад жанчын з кошыкамі й мяшкамі. Кажнаму, хто праходзіць тут, яны наперабой прапануюць свой тавар. І нярэдка дзеці купляюць замусоленыя саматужныя ледзянцы — так званыя пеўнікі або прыгарэлыя семкі.

Ці ня крыніца гэта антысанітарыі у горадзе? Нам здаецца, што выробленыя ў антысанітарных умовах цукеркі, зваленыя ў кучу з рознымі іншымі прадметамі, пакрытыя брудам, ужо самі па сабе зьяўляюцца носьбітам хваробаў.

Дзіўна, што ні работнікі міліцыі, ні дзяржаўная санітарная інспэкцыя нічога ня робяць для ліквідацыі базару на вуліцы.

**І. Кандратовіч**

☆

### З «РЭКЛЯМНАГА БЮРА „МЯЦЁЛКІ"»

(Гл. «Чырвоная Зьмена», 1. 4. 56)

АЎТАРЫТЭТНА ЗАЯЎЛЯЮ, што вясна наступіла. Кніжкі ўскрыліся ад лёду, часапісы й газета адтайваюць, па ўсёй хаце-чытальні бурляць ручайкі, шпакі прыляцелі.

**Кудзінава,**
загадчыца хаты-чытальні
вёскі Гнеўчыцы, Іванаўскі раён.

☆

ЗЬНІКЛА з продажу чарніла для аўтаручак. Тых, хто яго знайшоў, просім як мага хутчэй паведаміць у гандлёвыя арганізацыі Менску, каб там, змаглі, нарэшце, выпісаць чарніла з базы.

**Навучэнцы** ВНУ места Менску.



Ядвіся зноў чутка прыслухоўваецца. Не, гэта ёй проста так нешта здалося. Яна ціхенька адстаўляе крэсла і садзіцца. Садзіцца так, як сядзеў і ён, і праводзіць рукою па сваёй губцы. Гэта вось ён сядзіць, а яе тут няма. Яна там, за вакном, пазірае на яго. Яна ўся ўздрыгвае і боязна глядзіць у куток: там нешта заварушылася ціха, бяз шуму. Не, гэта там, на палічках, ляжаць яго кнігі. Яна ўстае, кладзе ў кнігу кавалак паперачкі, азірае цёмныя сьцены — яны няпрыветныя і маўклівыя. Яны мёртвыя, бо душа вышла з гэтага дому. Ёй страшна і жудасна — і разам з гэтым прыемна і смутна.

Што думае аб гэтым бабка? Ну, усё роўна: сягоньня яе апошні вечар тут.

Ядвіся яшчэ раз азіраецца. Яе забірае нейкі страх. Ёй хочацца заплакаць. Яна ціхенька ўваходзіць зноў у кухню.

— Ну, бабка, дабранач!

— Дабранач, паненачка! — адклікаецца бабка зь печы.

Бабка ня сьпіць. Яна проста думае свае старэчыя думкі, сухія, як і сама старасьць, простыя, як і ўсё жыцьцё яе, няцікавыя, як і яе доля. Яна ўстае, накідае зашчапку, глядзіць проста па прывычцы ў вакно, пазяхае ды зноў лезе на печ і чагось уздыхае, кладучыся ў цесны, цёмны, куток, адведзены ёй жыцьцём. Але бабка любіць свой гэты куточак. Тут ціха, тут цёмна, і толькі прусакі шалпочуцца ў шчылінах, але бабка ня чуе іх, хоць і ведае аб тым, што яны тут жывуць і жывяцца ад яе жыцьця. Ну, што-ж? Няхай.

Ядвіся зноў на дварэ. Яна падышла да дзікае грушкі. Пазірае на яе, штось разважаючы. Яна аглядаецца, бярэцца за дрэўца. Але грушка моцна бароніць сябе і коле Ядвісі руку.

«Гэта-ж я такая калючая, — думае Ядвіся, — бо я — дзікая!».

Яна падымае руку, асьцярожненька бярэ за самы вяршок і ломіць яго. Нашто яна гэта зрабіла? Яна проста хоча сказаць гэтым, што яна злая і нядобрая. Няхай ён ведае гэта.

Яна ідзе на свой двор. Зноў пазірае на гэтыя цёмныя вокны. І месячык адышоўся ад іх, бо яны мёртвыя і іх не ажывіш, бо душа вышла з гэтага дому. Ядвіся глядзіць на іх і ня верыць, што была там. Гэта проста ёй прысьнілася... Няхай-бы ён ужо і ня прыязджаў сюды і не даваў-бы жыцьця гэтым вокнам. А яны ажывуць. Яны зноў ажывуць! Але жыцьця яна ўжо ня ўбачыць, бо гэта апошні яе вечар тут: яна сама так захацела. Чаму? Яна проста спыніла сваё шчасьце і сказала: «Даволі!» Але хто-ж вырве зь яе сэрца гэта шчасьце цяпер? Ніхто. Яна будзе зь ім жыць, будзе жыць і з тым, хто сядзеў вунь там і праводзіў рукою па сваіх цёмных, маладых вусіках.

Але сэрца ёй кажа: «Я хачу яшчэ болей гэтага шчасьця! Я хачу выпіць яго ўсё, усё, да самага дна!» «Не, няхай яно будзе лепш недапітым, бо, можа, на дне яго наліта атрута. Так лепей!» — гаворыць Ядвіся да свайго сэрца, ды яно ніяк не згаджаецца зь ёю. Яна хоча думаць аб іншым: аб дарозе, аб тым невядомым, што на гэтай дарозе яе напаткае. А ўдумныя, добрыя вочы пазіраюць на яе, як-бы просяць, каб аб іх, толькі аб іх думала яна. І сэрца ёй зноў кажа: «Нашто ты лгала яму?..».

Малады месячык сьхіліўся над ветракамі. Яго ўжо ня цікавіць гэта дзяўчына і гэтыя вокны, якія імкнуўся ён ажывіць. Ён яшчэ не акрэп. Яго цягне край зямлі, няясны і мілы. Ідзе туды адпачыць, каб набрацца новых сіл на заўтрашнюю ноч. І ён ажывіць гэтыя вокны.

Нявідная рука поўначы ціха праводзіць граніцы між ноччу і днём, і ў вечнасьць адходзіць гэты вечар Ядвісі.

### XXXVI

Ціхая ноч ляжала над Палесьсем.

Аднатонную песьню вялі колы вагонаў. Бясконцы рой залатых іскраў выпускаў паравоз, агністаю паласою вызначаючы сабе дарогу. Ціха гулі і судрыгаліся балоты побач чыгункі, дзе бегла машына. Раскаціста і гучна грымелі салаўі: звону іх песень не маглі заглушыць грук і шум вагонных колаў. Месцамі ўзьнімаўся белаваты туман і нярухома зьвісаў над маладымі асокамі і цёмнымі абрысамі разложыстых купчастых лазьнякоў. І калі спынялася машына на станцыях і поўстанках і заціхаў шум поезду, з балот даносіліся хвалі нязвычайна мяккіх зыкаў крахтаньня жаб. Нейкі нявыразна маркотны і разам з тым прыемны гоман стаяў над балотамі, як-бы яны апавядалі гэтай ціхай ночцы і гэтым людзям, што ня спалі, адвечную скаргу сваю і смутак свой...

Ізноў шуміць машына, ізноў заліваюцца салаўі.

Вось і станцыя. Дарога скончана. Далей у сьвет пабяжыць машына.

Лабановіч вышаў з вагону, крыху пастаяў, падумаў і, не заходзячы на станцыю, пайшоў па палатне дарогі. У галаве яшчэ стаіць шум вагонных колаў, а экзамены, гэтыя новыя ўражаньні ўсё блёкнуць і блёкнуць. Пачынае разьвідніваецца, разам з гэтым абуджаецца Палесьсе. Далёка ў лесе такуе цецярук, як-бы нехта багамольны чытае там малітвы. Яшчэ больш гучна, яшчэ з большым натхненьнем правяць салаўі раньнія літаньні. Як падзяку небу, як дым пахучай смалы, узносяць угару балоты свае туманы і, здавалася, адпраўляюць набажэнства гэтыя лясы, ахінуўшыся тонкімі тканкамі пары. Усход сьвятлее, ціха грае і пераліваецца гэта ясната, залатая багра — шчасьлівы ўсьмех дня, — каб дыямэнтамі разьліцца на сьвежых маладых лісьціках, на чысьціюткіх кроплях расы і запаліць іх бляскам найдарожшых каменьняў.

Дзесь уперадзе пагруквае, як-бы пасьмейваецца і перамаўляецца з рэйкамі дрызіна, і гэты вясёлы сьмех адбіваюць сьцены лесу, што стаіць побач чыгункі. Едуць рабочыя, паляшукі-хлопцы. Яны вясёлыя, перакідаюцца жартамі і крэпка налягаюць на тоўстыя палкі, падганяючы дрызіну. Збоку дзесь голасна і музычна выводзіць трэлі пастухова труба; балоты падхватваюць голас трубы, нясуць яго далёка па краёх лесу і кідаюць невядома дзе. Залаты пажар сонца залівае верхавіны лесу.

Настаўнік падыходзіць да пераезду, паварочвае ўправа ў лес і выходзіць на дарогу, што ідзе на станцыю зь яго вёскі. Колькі часу ідзе ён між маладых хвойнікаў, выходзіць на круглую палянку, дзе калісь спаткаўся з паннаю Людмілаю. Адгэтуль ужо блізка вёска. Але раніца такая слаўная, у лесе так добра, што ён садзіцца на пень і слухае, як сьпяваюць дразды, як дзесь на ўзьлесьсі кукуе зязюлька. Ён думае, чым займецца цяпер, калі так многа вольнага часу, колькі пабудзе яшчэ ў школе. Напэўна яшчэ досыць доўга і ў усякім разе ня будзе сьпяшацца, пакуль тут яшчэ застанецца і панна Ядвіся. Чым бліжэй ён яе, тым з большаю сілаю ажываюць у ім пачуцьці, тым жывей устае прад ім гэта слаўная дзяўчына. Ён падымаецца, ідзе далей.

Дарога выходзіць зь лесу на грэблю. За грэбляю відаць Сяльцо, карчма старога Абрама, капліца, высокія дзікія грушы, а за сялом, нярухома падняўшы крыльлі, стаяць два ветракі, захоўваючы ўсё той-жа выраз зьдзіўленьня. Ён праходзіць грэблю, мінае карчму і хвілін празь пяць адчыняе дзьверы і ўваходзіць у кухню.

**(Далей будзе)**

